# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.pahonia.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 10 (572)
Кастрычнік 2013 г.


## Амэрыканскія гуманітары ў змаганьні з "амэрыканскім імпэрыялізмам"

Сёнешнія амэрыканскія каледжы ды ўнівэрсытэты ператварыліся ў сапраўдныя фабрыкі прамываньня мазгоў, што змагаюцца з іншадумствам і свабодаю слова". Яшчэ год дзесяць таму гэткая фраза падалася б аўтару гэтых радкоў вар'яцкай або, у кожным разе, не адпавядаючай рэчаіснасьці. Цяпер жа яна выглядае досыць дакладнай.







А пачыналася ўсё з паасобных эксцэнтрыкаў і сымпатыкаў расейскай рэвалюцыі ў некалькіх унівэрсытэтах. З дапамогаю савецкай агентуры і з утварэньнем Кампартыі ЗША эксцэнтрыкаў і сымпатыкаў паболела ў 1930-я гады, але яны складалі нязначную колькасьць прафэсуры й выкладчыкаў, хоць паасобныя ўстановы, як Гантарз-каледж або Купэрз-Юніян у Нью-Ёрку былі пад значным уплывам левых ідэяў ужо тады. Тыповым прыкладам гэткіх "фатэльных радыкалаў" стаў гісторык Рычард Гофстэтар, што заяўляў: "Я не люблю капіталізм, і хачу пазбыцца яго". Змаганьне супраць камуністычных уплываў ды інфільтрацыі ў часы макартызму паўстрымала на нейкі час распаўсюд лявацтва, але з ростам папулярнасьці твораў Сартра, філязофаў Франкфурцкай школы, францускага экзыстэнцыялізму набіралі прыхільнікаў "імпартаваныя" марксысцкія думаньнікі кшталту Э. Блоха, Г. Маркузэ, Т. Адорна, Ф. Боаса. Бастыёнамі левізны паступова зрабіліся Новая Школа Сацыяльных Досьледаў у Нью-Ёрку, Унівэрсытэт Каліфорніі ў Бэрклі ды некаторыя іншыя.

Затым пачалася эра гіпі, рыдыкалізацыі моладзі, пратэстаў супраць вайны ў Віетнаме. Мець левыя погляды зрабілася стыльна і модна, гэта было знакам бунту, прыналежнасьці да контркультуры непадпарадкаваньня "сыстэме" – адным словам, вельмі прывабліва для студэнцкай моладзі. Поруч з наркотыкамі й музыкай "Ролінг Стоўнс" шырака разыйшліся тады цытатнікі Мао ды саколкі з выяваю Чэ Гевары.

З часам студэнцкія радыкалы 1960-х самыя зрабіліся прафэсарамі-выкладчыкамі, пачалі перадаваць свае ідэі наступнаму пакаленьню студэнтаў. Саколкі з Геварам не выходзілі з моды. Але накрэсьлілася іншая тэндэнцыя – аматары Мао й Гевары сталі зацiскаць раты нязгодным, пачалі ствараць атмасфэру, у якой студэнтам-"дысыдэнтам" было лепш трымаць свае думкі пры сабе, бо інакш узьнікалі праблемы з атрыманьнем добрых адзнакаў ды з больш падатнымі на левую прапаганду аднакурсьнікамі: "Стары, ты сьмярдзіш нафталінам!" Далей – болей. Канфармізм, згодніцтва сталі ўмоваю атрыманьня пасадаў і прасоўваньня па кар'ерных прыступках. Нязгодныя ўсяляк выціскаліся і, дзеля спэцыфікі ўнівэрсытэцкай сыстэмы, яны не маглі шукаць справядлівасьці праз суд. Пачалася цыклічная вытворчасьць левай гуманітарнай інтэлегенцыі. Зачараванае кола замкнулася.

На 1960-я гады прыпадае ўзьнікненьне так званых "штудыяў тоеснасьці". Замест нармальных дасьледчых і навучальных дысцыплінаў гэтыя штудыі ад пачатку зрабіліся рухамі супраць амэрыканскіх каштоўнасьцяў, якія хутка набылі рысы таталітарных культаў. Першымі зь іх сталі "жаночыя штудыі", прадстаўніцы якіх Б. Фрыдан, М. Барэт, К. Гіліган вінавацілі белых мужчынаў ва ўсіх уцямных і няўцямных грахах, а за альянтаў уважалі, між іншага, "прыгнечаных мужчынаў трэцяга сьвету" і "народныя традыцыі антыкаляніяльнага змаганьня". Затым узьніклі "чорныя штудыі", або вывучэньне культуры і дасягненьняў афраамэрыканцаў. Шантажом і пагрозамі бун-

***Заканчэньне на бачыне 3***

# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 14 верасьня, адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Сход прайшоў на прыродзе, у Сэнтрал парку на Мангэтане. Надвор’е было цудоўнае, зьзяла сонца, і пры ім, на тле зяляніны дрэваў, вельмі густоўна выглядалі прынесеныя ўдзельнікамі сходу беларускія сьцягі.

Сход адкрыў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Ён распавёў пра нядаўна адзначаную гадавіну тэрарыстычнага нападу на Амэрыку 11 верасьня 2001 году ( вядомага як “Падзеі 9/11”). У прыватнасьці ён адзначыў свой удзел у мітынгу, ладжаным 11 верасьня сёлета на Мангэтане каля “Граўнд Зыроў” – месца, дзе стаялі вежы-блізьняты Міжнароднага Гандлёвага Цэнтру, што былі зьнішчаныя тэрактам. Мітынг праводзіла арганізацыя “Амэрыканская Ініцыятыва па Абароне Свабоды” (AIAC), што змагаецца за абарону канстытуцыйных свабодаў у ЗША. Падчас мітынгу выступалі сваякі загінуўшых у тэракце, ліквідатары наступстваў разбурэньня Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру, палітыкі, а таксама прадстаўнік перасьледванай радыкальнымі ісламістамі ў Эгіпце коптскай праваслаўнай царквы. Сымптаматычна, што ў адрозьненьне ад афіцыйных мэмарыяльных імпрэзаў памяці ахвяраў 9/11 у Нью-Ёрку, Вашынгтоне і Пэнсыльваніі, дзе гучэлі абстрактныя заклікі “памятаць”, “мацаваць адзінства” (як пасьля нейкага стыхійнага бедства) – на гэтым мітынгу наўпрост і недвухсэнсоўна нагадвалася прычына гібелі людзей і тое, што пагроза ісламскага тэрарызму ў Амэрыцы праз 12 год пасьля 9/11 ня зьменшылася, а наадварот, павялічылася, пра што сьведчыць тэракт 15 красавіка ў Бостане. Пры гэтым афіцыйныя ворганы “паліткарэктна” імкнуцца замоўчаць шматлікія факты радыкалізацыі мусульманаў, нягледзячы на задобраньне і замірэньне іх Захадам. Робіцца выгляд, што праблемы не існуе, што са сьмерцю Бін-Ладана вайна супраць тэрору скончаная. Прыкладам гэтаму ёсьць нават тое, што AIAC доўга не магла атрымаць дазволу на гэты мітынг на рагу Зукоты-парку, а калі дазвол далі, дык усё роўна забаранілі ўжываць гукаўзмацняльнікі.

Нэлі Брагінская, матка загінуўшага ў тэракце 9/11 імігранта з былога Савецкага Саюзу, паведаміла, што музэй, створаны пры Вежы Свабоды – хмарачосе, збудаваным ля “Граўнд Зыроў”, фактычна ўшаноўвае памяць 19-ці ісламскіх тэрарыстаў. Цэлая сьцяна ў музэі аддадзеная пад іхныя фатаздымкі, біяграфіі, лісты-тэстамэнты з заклікамі змагацца супраць Захаду. Лепшага “мэмарыялу” на месцы свайго злачынства тэрарысты не маглі й уявіць сабе. Гэты музэй, як прыватная ўстанова, адкідае патрабаваньні сваякоў загінуўшых перапрацаваць канцэпцыю і экспазыцыі, каб спыніць блюзнэрства і зьдзек над памяцьцю ахвяраў тэрарызму.

Выступіўшая на мітынгу актывістка і блёгер (http://atlasshrugs2000.typepad.com), што змагаецца супраць ісламізацыі, сп-ня Памэла Гэлер заклікала прысутных зьвяртацца да сваіх сэнатараў і кангрэсмэнаў з тым, каб музэй 9/11, як і надежыць для месцаў такога кшталту – Гэтысбэрг, Пэрл-Харбар і г. д. – быў перададзены пад фэдэральны нагляд і, каб публіка мела ўплыў на палітыку музэя з тым, каб нашчадкі мелі мажлівасьць даведацца аб тым, што адбылося ў нескажоным сьвятле.

Сп. Зайка адзначыў, што мітынг, які быў, нажаль, нешматлюдны, прыцягнуў таксама так званых “шукальнікаў праўды”, людзей, што лічаць быццам падзеі 9/11 былі падстроеныя амэрыканскім урадам, каб захапіць арабскую нафту і г. д. Калі ён сам паспрабаваў вытурыць блюзнэраў з мітынгу, паліцаі заявілі, што тыя маюць поўнае права стаяць там са сваімі плякатамі. 12-я гадавіна трагедыі ў Нью-Ёрку, такім чынам, пакінула ня самыя лепшыя ўражаньні. І пытаньне бясьпекі жыцьця, якое мусіць быць на першым месцы – перасунутае ў грамадзкай сьвядомасьці на самы ніз, дзякуючы, у прыватнасьці, паліткарэктным псэўдалібэральным сродкам масавай інфармацыі.

Са сваёй інфармацыяй пра паліткарэктнасьць і расавыя адносіны ў ЗША коратка выступіў сп. Едзіновіч, скарбнік арганізацыі “Пагоня”.

Затым адбыліся знаёмствы паміж прысутнымі, кожны коратка распавёў пра сябе. У нязмушаных абставінах прысутныя абменьваліся думкамі, выказвалі пажаданьні адносна працы арганізацыі і магчымыя шляхі ўзаемадапамогі паміж сябрамі.

***Віталь ЗАЙКА***



# Амэрыканскія гуманітары...

### *Заканчэньне з бачыны 1*

таў былі навязаныя праграмы чорных штудыяў перш у Каліфорніі й Нью-Ёрку.

Пад маркаю навуковай дысцыпліны ўзьніклі шарлятанскія ненавуковыя абвінавачаньні белай большасьці ва ўсіх бедах чорнай меншыні, розныя бізарныя тэорыі пра мітычныя чорныя цывілізацыі, што абрынуліся дзеля падступных "белякоў". Творцы тых тэорыяў М. Карэнга, К. Ўэст, А. Барака ды інш. займелі добра аплочаныя пасады ў такіх унівэрсытэтах, як Ель і Гарвард і распаўзьліся па ўсёй краіне.

За імі ўсьлед па накрэсьленай сьцежцы рынуліся гішпанамоўныя й імігранты-мэксіканцы, што дабіліся "чыканас-штудыяў" і заняліся прапагандаю стварэньня "Народнай Рэспублікі Ацтлан" на землях, што некалі "падступна захапілі белякі-грынгос". У гэтым ім добра дапамагла "грынгаўская" дабрачынная Форд-фундацыя. Пасьля на сцэну выйшлі "гей-штудыі", "інвалід-штудыі" ды "культурныя штудыі", якія ўлучалі ў сябе ўсе мажлівыя антызаходнія, антыамэрыканскія стэрэатыпы, так знаёмыя тым, хто вырас у Саветах. Усе тыя "штудыі тоеснасьці" аб'яднала "прагрэсіўная" ідэалёгія вінавачаньня Захаду і Амэрыкі ва ўсіх мажлівых бедах цывілізацыі, марксыстоўская нянавісьць да капіталу, прапаганда перавагі правоў групы над правамі асобы і нецярпімасьць да адрозных пунктаў погляду.

І вось менавіта гэтыя шарлятанізаваныя штудыі сталі запраўляць гуманітарнай адукацыяй, кіраваць сыстэмай "academic core" або агульнаадукацыйнай праграмай усіх студэнтаў амэрыканскіх навучальных установаў. На поўніцу пайшло прамываньне мазгоў, культывацыя нянавісьці да сваёй краіны, разбурэньне сыстэмы амэрыканскіх каштоўнасьцяў, якую стагодзьдзямі сваралі сваім потам і крывёю пакаленьні амэрыканцаў. Індывідуалізм, упэўненасьць у сваіх сілах, прадпрыймальнасьць, гатовасьць супрацьстаяць нягодам і шчырасьць Амэрыкі былі зганеныя і аднесеныя да грахоў. Так ствараўся электарат Абамы – электарат, які абраў сабе прэзыдэнта каб зваяваць "нахабства і фанабэрыю амэрыканскага імпэрыялізму", "весьці ззаду" сусьветную супольнасьць. Эліты Амэрыкі, з прамытымі празь левакоў мазгамі, усадзілі нож у сэрца сваёй краіны. Наколькі гэта выглядае мэтафарай, а наколькі рэчаіснасьцю, паказваюць апошнія скандалы ў абамаўскай адміністрацыі вакол Бэнгазі, IPC, Асашэйтэд Прэс.

**Віталь ЗАЙКА**

# Прэзэнтацыя новай кнігі Янкі Запрудніка




У нядзелю 15-га верасьня ў Беларускім грамадзкім цэнтры пры царкве сьв. Эўфрасіньні Полацкай ў Саўт-Рывеэры (Нью-Джэрзі) адбылася прэзэнтацыя кнігі Янкі Запрудніка "Belarusian Festivals & Exbitions in New Jersey". Прэзентацыя прайшла пасьля службы ў царкве.

Кніга гэтая выйшла сёлета летам на дзьвюх мовах. Спачатку ідзе тэкст па-ангельску, затым – па-беларуску.

Сп. Запруднік апісвае фэстывальную дзейнасць у Нью-Джэрзі – штаце, дзе канцэнтравалася асноўная беларуская дзейнасьць, было шмат арганізацый, трывалыя асяродкі і праваслаўныя прыходы. Адміністрацыя Нью-Джэрсі ў 1975 г. прапанавала беларусам правесці ўласны этнічны фэстываль. Першы фэстываль з некалькімі тысячамі ўдзельнікаў прайшоў 12 чэрвеня 1976 г. у цэнтры мастацтваў у Голмдэле, а прывітальную тэлеграму даслаў прэзыдэнт Джэралд Форд.



*Здымак Сяргея Трыгубовіча*

Сп. Запруднік падае шмат цікавай інфармацыі пра падрыхтоўку да фэстываляў, іхны прабег, канцэртныя праграмы. У кнізе надрукавана шмат фатаграфій.

***Янка Запруднік** нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у Міры (сёньня – Карэліцкі раён). З 1944 г. на эміграцыі. Скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі (1954). 37 гадоў працаваў журналістам-рэдактарам-прадусарам Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Выкладаў гісторыю Расеі ў Кўінс-каледжы Нью-Ёрскага гарадзкога ўнівэрсытэту, а таксама гісторыю і палітыку ў Гарыманаўскім інстытуце Калюмбійскага ўнівэрсытэту. Аўтар некалькіх кніг, у тым ліку "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", "Беларускі гістарычны слоўнік", "Дванаццатка".*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## У здаровым целе кволы дух

Неяк па дарозе з Арызоны ў Каліфорнію трапілася мне радыёперадача пра баксэра-трансвэстыта. Як вынікала зь сюжэту, адзін мужык зрабіў сабе апэрацыю, каб стаць жанчынай. Аднак пасьля зьмены полу і гармональнай тэрапіі ён адчуў пакліканьне да баявога спорту і пачаў удзельнічаць у спаборніцтвах. Адну са сваіх першых апанэнтак баксэр паслаў у накаўнт ударам калена ў сківіцу. Арганізацыя, якая выдае дазвол на ўдзел у спаборніцтвах ММА (мяшаныя віды бою), раскрыла справу ў СМІ, толькі пасьля пратэстаў з боку пакрыўджанай гэтакім падманам суперніцы. Ліцэнзію ў баксэра-трансвэстыта, зрэшты, не адабралі, толькі вось ахвотных біцца з новасьпечанай „жанчынай”, здаецца, няшмат. Зрэшты, ММА ў гэтым пляне ніякай рэвалюцыі не зрабіла. Мужчыны, якія прайшлі двухгадавую гарманальную тэрапію, нават без патрэбы апэрацыйнага „чык-чырык”, маюць права на ўдзел у Алімпіядзе на правах жанчыны! Пры тым інфармацыя пра такіх асобаў часта падлягае мэдычнай таямніцы, а ашуканым гледачам не застаецца нічога іншага як захапляцца новымі рэкордамі... Побач з зашкальваючым ужываньнем анаболікаў і стэроідаў, гэта – адна з прычынаў, дзеля якіх спорт робіцца ўсё менш і менш вартым увагі.



Жанчыны з мужчынамі, як вядома, спаборнічаць ня могуць. Нават у мяшаных шахматных рэйтынгах, звычайна, адна жанчына на сто мужчынаў, а ў кантактных дысцыплінах гэта скончылася б дрэнна. Аднойчы сёстры Ўільямс, набраўшыся нахабнасьці, сказалі, што перамогуць любога мужчыну з па-за першай 200-кі ў рэйтынгу. Выклік прыняў нямецкі тэнісіст Карстэн Браш, у той час растаўлены пад нумарам 203. Ён праславіўся таксама тым, што любіў закурыць паміж гэймамі. Тэнісіст згуляў з кожнай сястрой па адным сэце. З Сырэнай перамог 6:1, з Вэнус 6:2. Сёстры Ўільямс спусьцілі трохі пары і сказалі, што гатовыя перамагчы мужчыну з па-за першай 350-кі, але лёс другі раз вырашылі лепш не выпрабоўваць.

Кожны раз, калі Вікторыя Азаранка сустракаецца ў фінале з Сэрэнай Уільямс, шчыра спачуваючы зямлячцы, задаюся пытаньнем, чаму ў тэнісе няма вагавых катэгорый. Час на такія зьмены ўжо даўно прысьпеў. Сучасны тэніс, напэўна, ня менш залежны ад агульных прапорцый цела за бокс. Вікторыя важыць 67 кг пры росьце 185 см, у той час калі яе суперніца можа пахваліцца 70 кг пры росьце 175 см. Розьніца, быццам бы, не вялікая, але ў нейкім сэнсе прадвызначальная. Дарога са сьвету „культурыстыкі” ў тэніс павінна быць або закрытая, або весьці ў цяжкую вагавую катэгорыю гульні. Такая лёгіка, канечне, трохі запазычаная са сьвету паралімпійскіх спаборніцтваў. Але там, дзе ідэя здаровага спорту ўжо даўно растаптаная, застаецца толькі здаровая іронія.

***Віталь ВОРАНАЎ***

*Здымак узяты з сайту* ***www.ofsajd.onet.pl***

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Ńêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

**В. Бітус .......................50**
**Т. Бойка .......................50**
**К. Кажэнаў ....................50**
**М. Літвінка ....................50**
**Усім шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

---

*Паважаная **Вольга Міхайлава**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас. Верасьнёўскі нумар “Вестак і Паведамленьняў”, дасланы на ваш новы адрас у Нью-Джэрзі, вярнуўся назад.*

---

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 26 кастрычніка 2013 году** на Мангэтане.

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**К. Кажэнаў ..................30**
**Шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку **www.e-krama.com***

---

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на бюлетэнь (**гл. інфармацыю аб апошнім ахвяраваньні на канвэрце справа ад прозьвішча**).*